д II –1913. Липень. 15-ая кніжка.








**ПЕРШЫ БЕЛАРУСКІ МЕСЯЧНІК СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ.**

На выстауцэ насеньня у Вільні у лютым 1913 г. „Саха“ за стацьі аб насеньнях дастала

**СРЭБНУЮ МЭДАЛЬ.**



---

Падпісная цана на 1 год **1 р. 20** кап. на 6 месяцоу **60** кап., за перамену адрэсу **20** кап. Можна падпісацца і аткрыткай, просячы, каб падпісную цэну налажылі на першы высланы нумэр. Рэдакція: **Вільня Віленская 29.**

---

Абвесткі працоунікоу, шукаючых мейсца у гаспадарках, друкуюцца за 2 маркі па 7 кап., толькі абвестка павінна мець ня больш 20 слоу.

---

Цэна абвестак за строчку пэтіту у поукалонны: перад тэкстам **40** к., за тэкстам **20** к. За разсылку рэклям пры месячніку вагой да 2 лотоу **7** руб. ад тысячы

---

**Цэна асобнаго нумэру 8 кап., з дастаукай да хаты 10 кап.**

Годъ II—1913. Липень. 15-я кніжка.

САХА ПЕРШЫ БЕЛАРУСКІ МЕСЯЧНІК СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ.



# Рады для хлебаробау.

У месяцы Чэрвені і Ліпні самы гарачы, самы дарагі ў гаспадарцы час. Ад добраго—удалаго, пагодліваго часу залежыць усё багацьце і ўся надзея хлебароба.

Калі пагода спрыяе, то ўсе зборы, як сена, так жыта і ярыны пойдуць добра, і гаспадару лягчэй справіцца з усей работай, ды і самай работы меней, бо скарэй яна адрабляецца. Але ніхай толькі пойдуць дажджы—работа страшна зацягніцца, а пасля зьбярэцца уся разам і ня ведаем за што ўперад узяцца.

Такая неудалая пагода ёсць як раз і сёлета. Як пайшлі дажджы, дык ідуць, ідуць і німа ім канца. Калі і блісне сонцэ—то найбольш на поў дня. Праўда, ярына сёлета, дзякуючы дажджу, усюды добрая, нават мейсцамі паляжэ. Жыта дождж ужо не паправіў, спазьніўся, а красаваньню яго мейсцамі пашкодзіў: каласы там не такіе поўные, як павінны быць. Пры такой пагодзе сенажаці ешчэ ня ўсе скошэны: касіць іх прыдзіцца і пасля жніва. Сена сабралі больш чорнаго, часьць сена згніла, а мейсцамі і вада крыху знясла, а усё такі гаспадары высушылі німала і зялёнаго сена. Рупные, і кемные гаспадары карысталі і с паўднёвак, — крыху падсушыўшы сена, складалі у малые копкі, а на другі дзень, прасушыўшы гэтые копкі, вязлі зялёнае сена ў пуню.

Цяпер наступае ешчэ важнейшая работа — жніва, ешчэ гарачэйшы час, і гаспадар не згадае за што ухапіцца і жыта трэба жаць, і сенажацяў ешчэ не пакасіў.

Жыта можна жаць, як толькі зярнё стала цьвёрдым, хоць салома ешчэ саўсім не пабялела--зеленкаватая, тады зярнё не так высыпаецца і такім парадкам зьбяром самае буйнае зярнё, бо яно толькі і высыпаецца. Як толькі даспяець жыта, селяне усімі сіламі бяруцца за жніва: кідаюць сена, кідаюць косы і бяруцца за сярпы.

Вось гэта і нядобра, што кідаюць косы. Трэба кідаць саўсім сярпы, а брацца за косы і жыта касіць.

Адзін касец можэ скасіць жыта у дзень поў дзесяціны. Толькі, разумеецца, касіць трэба не так як траву, але на сьцяну — да жыта, такім парадкам жыта скошанае стаіць пры цэлым, а за касцом работніца бярэць гэта жыта і вяжэ у снапы.

Самых снапоў непазнаеш—ці жаты сярпом, ці кошаны касой, пасля каторай снапы роўные, гладкіе, толькі салома крыху даўжэйшая. Пры касьбе зярнё с каласоў саўсім мала высыпаецца, бо скошанае жыта стаіць разам с цэлым, пакуль яго не звяжуць у снапы. А жнучы серпамі, работніцы махаюць

жменькамі жыта, падымаючы ў верх, перэкідаючы на серп і кладучы на зямлю, многа зерня вылетае.

Прыгледзьцеся толькі, як жнецца спелае жыта, колькі тады зерня высыпаецца, а папрабуйце гэта самае жыта касіць, ня зглуміце столькі зерня, лягчэй і скарэй кончыце жніва і болей пэўна ніколі ня будзіце жаць серпамі.

Немцы ўжо даўна кінулі сярпы, а ўзяліся за косы. Да касы пры касьбе жыта прывязываецца такая дужка (поў абруча), ці загнуты кіёк, да пяткі касы адным канцом, да акосься (між пяткай і ручкай) а то і да самай ручкі другім канцом; трэба каб гэты абруч стаяў у верх (толькі не ў перад, не ўзад і не ўніз). Урэшце кожны касец, косячы жыта, сам патрапіць так наладзіць касу і дужку, каб касіць як найлепей, а то ешчэ што прыдумае лепшае.

У прошлым гаду я ўгаварыў многа селянаў касіць жыта. Сперша не хацелі, казалі шкода глуміць жыта, але як палядзелі, колькі зерня марнуецца жнучы, а колькі косячы, праканаліся, што косячы самае сьпелае жыта, саўсім мала асыпаецца зерня, снапы роўные, гладкіе, як і пры жніве, а салома ешчэ даўжэйшая, а сама работа ідзе хутчэй і лягчэй і далей ўжо касілі жыта косамі, кажучы што кос пры жніве яны ужо ніколі не кінуць.

Гаспадары, зьвярніце на гэта ўвагу! Бярыцеся за косы і касіце жыта, а ня будзеце каіцца. А раз папрабуеце — ўжо ніколі ня верніцеся да серпа. Кончыўшы скарэй уборку жыта, можна будзе ўсімі сіламі ўзяцца за сена, уборка каторага вельмі зацягнулася і дагэтуль была вельмі неудалая.

Летась шмат дзе ярына пагніла і сёлета невядома якая будзе пагода, вось і трэба заўчасу падумаць як лепей высушыць.

Авёс і ячмень найлепш вязаць у чубкі і ставіць па аднаму снапу, так скорэй высыхае і не баіцца дажджу. Чубкі—гэта маленькіе снапочкі, вязаные ў самых каласох, або закручэные двумя—трэмя веткамі, тады камлі расходяцца і добра стаяць на зямлі—не валяюцца.

**А. Бэнэцэвіч.**

*Лапкова,*
*12 Ліпня 1913 г.*

---

# Як карміць кароу дробнаму гаспадару у летку, каб мець карысьць.

С пачатку лета, пакуль трава маладая, кожны гаспадар бачыць, як у яго кароў малака прыбывае; але ўжо пасярод лета, — якбы не пасьвіў кароў, якбы яны сыты неварочаліся с поля, а малака ўбывае.

Прычына гэтаму тая, что ў маладых травах пажыўных частак куды больш, чым у старых, дык хоць і наесца карова на гэтай старай травы, але пасілак з яе слабы, вось малако і ўбывае. Каб-жэ гэтаго ня было, трэба прыкормліваць кароў з рук—у хлеве.

Каровам недаўна ацяліўшымся трэба даваць праз першы тыдзень што дня па поў фунта жмыхаў, або па фунту вотрубаў; праз другі тыдзень па фунту жмыхоў, або па 2 фунты вотрубаў; праз трэці — па паўтара фунта жмыхаў, або па 3 ф. вотрубаў і т. д., ажно пакуль ня дойдзем да трох фунтаў жмыхаў, або да 6-ці фунт. вотрубоў. І гэтак ужо даваць да канца лета. Ад пачатку-ж Серпня трэба ешчэ дадаваць што дня па пуды паўтара кошэнай травы на кожную штуку.

Каровам, каторые даюць ешчэ каля двух гарнцаў малака, трэба пачынаць даваць жмыхі, або вотрубы ад пачатку Ліпня, і прыбаўляючы пакрысе,—давесьці да поўтара фунта жмыхаў, або да трох фунтаў вотрубоў на кожны дзень.

Каровам, каторые даюць меней малака, можна гэтай прыкормкі і не даваць, але с пачатку Серпня — кошэную траву — даваць трэба кожнай штуцэ.

Калі пад гэты час (ў канцы Ліпня, або ў Серпені) карова ацеліцца, то трэба зразу ёй такі корм даць, каб пажыўнасць яго не дала спасьці с цела матцы, кармлючы сваё дзіця, а значыцца трэба канешна даваць жмыхаў, ці вотрубоў у большай порціі, ды апрача таго кошэнай травы.

Само сабой разумеецца, што ўсе гэтые рады ня могуць быць якбы аптэчным рацэптам: шмат залежа ад уселякіх мейсцовых варункаў, ад самай тушы жывёлы і т. п. Рады гэтые хоць агульніковые, але выпрактыкаваные, і ўжо ад самога спрыту і розуму гаспадара залежыць, як іх разумней выкарыстаць.

Інструктар гадоўлі жывёлы і млечнай гаспадаркі

*Бабоўня,*
*Ліпень 1913 г.*

**Л. Папроцкі.**

# Што трэба рабіць, як уздуе жывёлу.

Гаварыць аб тым, як часта бывае уздуцьце у жывёлы—ня трэба; бо рэдка дзе знойдзіцца такі гаспадар, каторы ці у сваёй стаднінцы ня меў такога прыпадку, ці ня бачыў яго ў суседа

Уздувае валоў, кароў і авечак ад кармленьня такім кормам, каторы скора травіцца ў жываце і пры гэтым дае многа газаў. Газы зьбіраюцца ў жываце і раздуваець яго так, што калі ударыць па ім кулакам, дык выходзіць такі адгалосак, як бытцам біць у барабан, і жывёла можэ пасьці ад разрыва жывата, ці задушыцца. Да такіх пушачых кормаў належыць канюшына, грэчка, авес, ліст с капусты, бульбяньнік. Апрача

таго уздуцьце скаціны бывае і ад таго, што яна пасецца па траве ў цёплую і даждлівую цагоду. Есьць ешчэ больш прычын гэтай немачы у жывёлы, але аб іх я гаварыць ня буду, бо яны немаюць значэньня для гаспадароў, а скажу толькі, што калі уздуцьце у скаціны бывае часта і не залежыць яно зусім ад корму, то такую жывёлу трэба прадаць на мяса, бо яна прападзе, калі ня пільнаваць яе і у дзень, і ў ночы.

Сказаўшы аб тым, .што такое уздуцьце і ад чаго яно бывае—трэба сказаць і аб тым, як яго лячыць.

Само сабой разумеецца, што найлепш—трэба пільнавацца, каб не карміць жывёлы пушачым кормам, але калі здарыцца такі, што уздуе вала, ці карову, то трэба умець і ратаваць іх.

Найперш трэба расьціраць жывот пучкамі саломы, купаць, абліваць халоднай вадой. Трэба ўзяць у аптэцы са дзьве кварты вапеннай вады і ўліць жывёле ў горла, можна ўзяць у аптэцы паўфунта „сѣрнисто-кислаго натра“ і са 3 лоты парашку с каранёў аіра і, ўсыпаўшы усё разам у квартовую бутэльку, наліць вады ў яе і, добра збалтаўшы, ўліць жывёле ў горла. Калі гэта усё не памагае, тады астаецца адна рада: пракалоць жывот троакаром і выпусьціць газы.

Троакар—гэта такі інструмэнт, каторы складаіцца с трубкі і ў яе устаўляіцца штылет з вострым канцом і з дзераўлянай ручкай.

Прабіваюць трыбух гэтак: у сярэдзіне левай галоднай ямкі скуру прарэзаюць нажом, тады прыстаўляюць троакар (улажыўшы у трубочку штылет) і, намэціўшы ім на правы локаць. трэба крэпка ударыць ладоняй па ручцэ троакара. Як толькі троакар прабіў трыбух і схаваўся ў яго па самую ручку, тады штылет выймаіцца с трубкі, а трубка астаецца, бо праз яе будуць выходзіць газы. Каб выняць і трубку, дык газы ня выходзілі-б, бо дзірка заціснулася-б. Выпускаць газы трэба па троху і нямо͡жна выпусьціць іх адразу. Як ужо ўсе газы вышлі, то трубку ешчэ вынімаць ня трэба і, заткнўшы яе коркам, трэба пачэкаць з гадзіну, бо газы могуць ізноў сабрацца.

Перад тым, як вынімаць трубку, трэба прапаласкаць яе чыстай вадой і, уставіўшы ў яе штылет, выняць з жывата.

Калі траакара німа, тады можна гэтак сама прабіць трыбух і нажом, толькі трэба, каб нож быў вузкі і каб у даўжыню меў ня менш як два с палавінай і ня больш як тры вяршкі. Як толькі трыбух будзе ўжо прабіты, тады, ня вынімаючы нажа, трэба уставіць у дзірку якую - колечы трубку: ці чысты папіроснік, ці птушыную пёрку, ці так якую трубку, толькі каб зусім чыстую. Як ужо газы будуць выпушчэны, тады трэба берагі ране на скуры сьцягнуць і склеіць клейкім плястрам і яны скора зрастуцца. Плястар бярэцца у аптэцы. Пасьля ўсяго гэтага, трэба ўзяць фунт гляўбэрскай солі, усыпаць у бутэльку, наліць туды цёплай вады і, як соль разойдзіцца, уліць жывёле ў горла; ніякіх лекаў больш ня трэба

*Даугінаво.* **Н. Сініцкі.**

# Крывавая моч у жывёлы.

Крывавая моч у жывёлы бывае дужа часта і хварэюць на яе найбольш коні, валы і каровы.

Ня ведаю, як гдзе, але аб нашых беларусах трэба сказаць, што яны куды лепей дагледаюць коней, чым іншую скаціну, хоць і самі добра ведаюць, што для гаспадаркі—карова і вол можэ больш патрэбны, як конь, але, ня гледзючы на гэта, коней любяць болей, а дзеля гэтага і даглядаюць іх лепей, вось чаму коні і хварэюць на крывавую мачу менш.

Крывавая моч бывае найчасьцей ад прастуды і само сабой, што скаціна хварэе найбольш вясной, калі пасьля доўгай стаянкі у хлявох, асабліва—ў цёплых, выходзіць на пашу, і ад таго ешчэ, што скаціна есць вясной маладые расткі на хвоях і елках і нейкіе грыбкі.

Ужо з аднаго гэтага відаць, што на крывавую мачу павінны часьцей хварэць каровы і валы, бо яны ўсю зіму стаяць у хлявох, і ня могуць прывыкнуць да перамен пагоды так, як конь; а апрача таго, конь больш корміцца сухім кормам і радзей пасецца па лясох, а дзеля гэтага і хварэе не так часта, як рагатая жывёла. Коні амаль заўсёды пачынаюць хварэць пры працы, пасьля таго, як яны доўга стаялі ў цёплых, душных хлявох. Спачатку конь кульгае на адну нагу і пацее, а іншым разам задам ня можэ крануць, дрыжыць, пакрываецца потам і валяецца. Моч пры гэтым бывае цёмная, як бытцам брудная, а часта чорна-бурая і нават саўсім чорная.

У рагатай скаціны крывавая моч бывае часьцей і хвароба паказываецца с таго, што моч мае коляр чырвона-буры, ці чырвона-чорны і робіцца падобнай да дзёгцю. Апрача гэтага задам не кране, ў паясніцы праяўляе боль, а с пачатку хваробы бывае і крывавая лякса.

Кожны гаспадар, у катораго жывёла хварэе, ці хварэла на крывавую мачу, павінен пастарацца прыучаць яе да перамен пагоды, а дзеля гэтага не павінін дзержаць скаціну ў дужа цёплых і душных хлявох, а іншым разам і ў хатах, як гэта давялося не раз бачыць мне зімой па вёсках; ня можна рана вясной выганяць скаціну ў поле; і перад тым, як выганяць — трэба накарміць яе сухім кормам. Трэба старацца, каб у хлявох было суха і каб скаціне ня цьвёрда было ляжаць; асабліва трэба зьвярнуць увагу на гэта зімой, бо скаціна дужа худзее і ад доўгаго ляжаньня на цьвярдым — паробяцца „пролежні“. Хворую жывёлу ня можна пушчаць на пашу, а трэба паставіць у хлеў і даваць часта, але па нямногу—добры, сухі корм: добрае сено, пойла з мукі, ці з вотрубоў, моркаў. Трэба расьціраць скаціне зад і і сьпіну тэрпатынай, ці камфаровым спіртусам і даваць піць 2 разы у дзень соду: карове, ці валу можна даваць адразу цэлую цвёртку, а каню—разы у два меней. Апрача таго, рагатай жывёле трэба даваць пры ляксах па якіе 2 лоты таніны на адзін раз, а пры затрыманьні — па якіе 2

фунты гляўбэрскай солі. Трэба ведаць, што сухога зельля ня можна сыпаць у горла жывёле, а трэба каб яно распусьцілася ў вадзе, лепей у цёплай, і тады толькі можна ўліць жывёле. Пры затрыманьні мочу ў коней — трэба ўзяць у аптэцы „катэтэр“. Што такое катэтэр, і як з ім абходзіцца, я пісаць ня буду, бо аб гэтым ужо пісалося ў „Сасе“.

(Паглядзі 9-ую кніжку „Сахі“ за студзень месяц 1912 г.).

*Варшава*
*вэтэрын. інстытут.*

**К. Сініцкі.**

# Практычные рады.

## Белы пакостъ.

На 1 фунт пакосту бярэцца $1^1/_2$ ф. цынквэйсу і крыху простай тарпатыны, а каб фарба не пажаўцела—дамешываецца ешчэ трохі ультрамарыну (сіняй фарбы). Зьмешаўшы добра ўсё гэта разам—малеваць, але не праз лад густа.

## Хлёрак да бялізны.

Хлёрак калі акуратна прыгатаваны, вельмі прыдатны для бяленьня палатна, ці бялізны.

За дзень перад мыцьцём трэба ўзяць цьвёртку фунта хлёрку, расцерці яго акуратна (бо найменшые грузолачкі яго могуць папаліць бялізну), намачыць яго ў невялікім дзбанку з вадой і паставіўшы ў цёмным мейсцы, добра яго акрыць, каб як найменш даходзіло да яго сьвятло. На заўтрае—ваду с хлёркам працадзіць праз густое палатно ў балею, куды даліць ешчэ з дзесяць мерак вады, усё гэта добра вымешаць і тады даліць ешчэ 12—15 дзбанкоў вады.

Добра вымытую і выгатаваную бялізну выціснуць і акуратна паскладаць у балею: грубейшую пад спод, цянайшую — на верх, і саму балею добра акрыць, бо чым менш будзе даходзіць сьветла да хлёрку, тым лепш выбяліцца і бялізна. На другі дзень бялізну выняць з балеі, перэлажыць у другую пасудзіну і заліць гарачай вадой, каб ачысціць яе ад хлёрку, а пасьля паласкаць звычайным спосабам.

Бяліць гэтак палатно, ці бялізну вельмі добра, бо выходзіць чыстая і пах мае сьвежы і здаровы.

## Як бяліць пасудзіну.

Вымыць да чыста сярэдзіну пасудзіны дужа моцным воцэтам, або разбаўляным вадой серчаным квасам, а пасьля добра вышараваць, бо тут ідзе аб тое, каб старая пабела зусім

зышла, бо інакш і новая пабела ня будзе трымацца, а пачне у скорасьці атпадаць кавалкамі.

Паставіўшы чыстую пасудзіну на распаленых вугальлях, укінуць у сярэдзіну кавалак чыстай цыны (добрая цына гнецца, але ня крышыцца і ня ломіцца), а як пачне яна распушчацца, пасыпаць яе саляманіякам і якой колечы суконкай борзьдзьенька расьціраць, пакручываючы пасудзіну на ўсе бакі і зважаючы, каб цына скрось роўна ўзялася.

**Ку--ская.**

*м. Пурвинишки Сувалкской г.*

### Лекарство ад пухліны, калі укусе пчэла.

Каб не дапусьціць пухліны, калі ўкусе пчэла, трэба распусьціць у гарэлцы крыху солі і гэтым націраць і прыкладаць змочэнай фантачкай на ўкушанае мейсцэ.

---

## Нашы узьмешкі і прыдарожкі.

Вядомая рэч што на узьмешках паміж збожа і на прыдарожах расьце ня згорш трава; але ае касьбу мы накідаем на астатак, або і зусім ня косім, а астаўляем пад пашу.

Тымчасам гэта вельмі шкодна адзываецца на суседніх палетках, Як на узьмешках, так і на прыдарожках шмат расьце ўселякага зела і калі даць яму аткрасаваць, то насеньне яго з ветрам залетае на засеяннае поле і гэткім парадкам занечышчае грунт і растучы паміж збожа, прыглушывае яго, бо выцягівае з зямлі сокі для сябе, каторые пайшлі-б на карысьць збожа.

А знаная рэч, як пасьля ўселякае зяло трудна зніштожыць, бо яно вельмі жывачае. Дык, памятаючы аб гэтым, н забываймыся нашы узьмешкі і прыдарожкі касіць заўчасу, ка не даць ім перэкрасаваць.

**Лё-нік.**

---

## Як сушіць фрукты.

Хто мае ранные гатункі фруктаў, яны ападаюць ешчэ ня спелые, то ападкі трэба сушыць. Горшые можна пакінуць у запас для сваей патрэбы. а лепшые — спялейшые пойдуць на продаж.

Сушыць трэба так. Чысьценька абабраўшы з лускі, парэзаць на кружочкі, разлажыць на рэщаце, дый уставіць у які колечы яшчык—закрыць добра; тады пад спод паставіць цаглі-

ну, насыпаць на яе серкі і запаліць; у гэтым дыме яблыкі трэба трымаць мінут пяць, а тады, выняўшы іх са скрынкі, скоранька уставіць у добра цёплую печ.

Гэткім спосабам сушаные яблыкі выходзяць сьветлые і на продаж дужа здатные.

Ігрушы можна сушыць только спелые; абіраць так сама трэба, але серкай ня дыміць, а толькі крыху апарыць гарачай вадой, а пасьля уставіць у гарачую печ. Ім трэба доўга сохнуць.

Х.

# Маліны.

Хоць хто і невялічкі мае шматочак зямлі, але, калі яго ўмела выкарыстаць,—можна мець ня згоршы даход.

Цяпер скрось пачалі заводзіць сады. Рэч вельмі карыстная, але, каб скарэй з яго прыждаць даходу, варта паміж фруктовых дрэў засаджываць ягадные кусты: агрэст, парэчкі, маліны і т. п.

Адна з найкарыстнейшых ягад — маліна. Яе скора можна дагадавацца і ў гандлю яна вельмі ходкая.

Зямлю пад маліны трэба выбіраць добрую—найлепш суглінак, або чэрназём і пульхна яе вырабіць. Само мейсцэ павінна быць аткрытае—пад поўдзень; хоць і любіць маліна вільгаць, але сам грунт не павінен быць мокры.

Гной найлепш прыдатны конскі, каторы трэба глыбака і акуратна перэкапаць і перэмешаць з зямлёй.

Разводзіць маліну можна некалькімі спосабамі: з насеньня, адросткамі і корэнямі.

Вядома, што па выкарчэваньні маліньніку з маленькіх карэньчыкоў пушчаецца шмат адросткоў,—вось і можна іх разсаджываць. Хто-ж маніцца разводзіць маліны з насеньня, трэба рабіць так: з вясны пасеяць на добра вырабленые грады нявельмі густа насеньне і палівацъ каб добра ўзышло, а на другі год—на вясну, ці ў восень высадзіць гэтые расьлінкі на мейсцэ.

Хоць і можна садзіць маліны вясной, але лепш гэта рабіць у восень, бо яны з вясны рана пушчаюцца ў рост.

Самая пасадка робіцца так: празначэнае пад маліны мейсцэ, перэкапаўшы на якіе тры цьверці аршынаў глыбіні, разбіць на лініі—адна ад другой на поў сажня; тады выкапаць ямкі на лапату глыбіні і на аршын адну ад другой. У гэтые ямкі і садзіць маліны, дый добра іх падліваць. Як надойдзе зіма, то самые галінкі трэба прыгнуць да зямлі і прышпіліць іх калочкамі. Вясной, як крыху пацяплее, трэба кусьцікі маліны абрэзаць, пакідаючы сам пянёк на 3 — 4 вяршкі ад зямлі. Гэта робіцца дзеля таго, каб маліна больш мела сілы ўмаца-

вацца. Летам трэба палівацъ, а як падрасьце — прывязываць да колікоў, ці да пацягнутаго дроту.

Першаго году галінка маліны ніколі не дае ягадоў, а толькі на другі год, дый пасьля засыхае. Вось гэтую суш і трэба вырэзаць, Апрача таго трэба пільнавацца, каб сам куст ня быў праз лад густы: годзе кінуць веткі 4 пад ягады, а веткі 4 ў запас—для другога году, тады самые ягады бываюць добрые і не драбнеюць. Самы лепшы ураджай бывае на трэцьцім гаду ад пасадкі, але больш як восем гадоў на адным і тым самым мэйсцы малін трымаць не варта, бо дзічэюць.

Пад ураджайны год адзін кусьцік маліны можэ даць 3 фунты ягадоў, а гэтых кусьцікоў на аднэй дзесянціне можэ зьмясьціцца дзевяць тысячоў, то значыцца ягадоў можна сабраць 27 тысячоў фунтаў, а гэта 675 пудоў, і калі лічыць найменшую цану, якая плаціцца ў гандлю за маліны — па 2 рублі за пуд, то гэта выйдзе на вогул 1350 рублёў даходу з дзесянціны. Само сабой разумеецца, што будзе і расход, але ўсёжткі астанецца ладны грош.

Вельмі важная рэч — зьбіраць на продаж самые ягады ў пару — т. е., каб яны былі ня переспеўшы, бо іначэй скора псуюцца і перавозіць іх тады нельга. Найлепш не абіраць іх пальцамі, а састрыгіваць нажычкамі, тады мяліны трывалейшые для адпраўкі.

Лепшые гатункі малінаў для нашаго гандлю надаюцца: расейская чырвоная, Фастольф, Горнэт, Усанка; а з белажоўтых— Галандская.

Я. К.

*Кучкурышкі.*

---

# Трускаўкі.

Нават па гарадох—дзе кожны шматочак зямлі вельмі дорага абходзіцца -шмат разводзяць трускаўкаў—значыцца гэта ягода добра аплачывае сябе. Дык німа што і гаварыць, што трускаўкамі варта заняцца і на вёсцы.

Зямлю пад трускаўкі трэба выбіраць добрую — найлепш суглінак; растрэсьці па ёй старога перагною і на якіе поў аршыны пэрэкапаць, прычым старанна выбіраць тоўстых, белых, жоўта-галовых рабакоў, бо яны вельмі шкодзяць трускаўкам (гэта будучые майскіе жукі).

Заўчасу прырыхтаваўшы зямлю, выгладжываць яе у след граблямі не варта, а толькі перад самым ужо саджаньнем Садзіць трускаўкі найлепш адросткамі—так званымі вусамі, калі будуць яны мець па 3—4 лісточкі, кусьцік ад кусьціка на вяршкоў 6, дый паліваць пакуль прыжывуць. а паміж німі пасеяць салаты, тады, астаўшыеся ў зямлі рабакі ня будуць чапаць карэньнеў трускаўкаў, а накінуцца на сал.гу, каторую яны больш любяць, а з гэтаго страта невялікая.

Садзіць трускаўкі найлепш у Ліпні, або ў пачатку Серпеня, — тады яны будуць мецць час лепш умацавацца да зімы.

З гатункаў трускаўкаў для нашаго краю найбольш падходзяць: Ананасная, Вікторыя і Чырвоно - Дворская. Але для гандлю найлепш садзіць адзін толькі з гэтых гатункоў, бо тады куды лягчэй яго збываць.

**Крыука.**

*Вільня.*

*Ад Рэдакціі.* Нам вядомы некаторые вёскі вёрст 20 ад Вільні, дзе дробные гаспадары пачалі ўжо разводзіць у сябе трускаўкі і пры сёлятніх цэнах утаргавалі за ніх больш, як па сто рублёў.

# Што рабіць з яблакамі.

Пад сёлятні год фрукты маюць цану добрую — бо мала іх ёсьць, дык і пазбыцца іх ня трудна. Але бываець, што цяжка іх даставіць у горад—бо на гэта часу пад рабочую пару нехват, а на мейсцы збываць абы за што—шкада. А тым часам зьбіраецца шмат ападкаў, дый некаторые ўжо наспелі так, што прыходзіцца даць ім нейкую раду.

Можна іх, разумеецца, сушыць, але ешче лепш рабіць з іх кашу. Каша гэта робіцца так: яблакі трэба уставіць у печ, каб добра папякліся, а тады перацёрці іх праз густое рэшата, каб скурка, зерняты, дый сам асяродак засталіся на рэшэце, а прайшла самая толькі мягкая каша.

Гэткую кашу ахвотна купляюць на рынку (меней — болей па рублі два за пуд). Хто-бы меў гэткаго тавару шмат, то найлепш згаварыцца з якой колечы цукерняй, бо там купляюць гэтаго соткамі пудоў. Цукру дабаўляць для продажы ня трэба; але хто-б хацеў сабе ўзапасіць гэтай смачной і здаровай яблачнай кашы на зіму, то трэба усыпаць 5—10 фунтаў цукру на пуд гэткіх павідлаў, бо іначэй яны збурацца.

Там, дзе яблакаў шмат—у печ іх, разумеецца, ня умесціж, і тады, хочучы заняцца карысным гандлем — яблачнай кашай, трэба абзавясьціся асобнымі для гэтаго прыладамі, каторые прадаюцца ў сельска-гаспадарскіх складах.

**Ват-ка.**

# Аб мешаньні і сяубе жыта на цяжкіх землях.

З давен-даўна па нашых вёсках вядзецца такі парадак, што папар гаруць толькі два разы; а гэта вельмі шкодзіць ураджаю на цяжкіх грунтах.

На гэткіх грунтах—хоць і гною палажы, але калі іх ня вырабіш як сьлед, то нічога не паможэ: жыта парасьце малое, ды і то з гірсай, або з званцом. Цяжкая гліністая земля вельмі хутка цьвярдзее, а ня добра вырабленая—праз зіму робіцца як блін з заскарупеўшай скурай.

Калі хто ня хочэ, або яго ня змога траіць свой папар, то замест гэтаго трэба канешна, як толькі ён заскарупее,—раз і другі добра выбаранаваць,—тады земля пульхнее.

Цяпер скажэм аб самым мешаньні. Брацца за гэта трэба што найраней: каб перад сяўбой жыта земля успела адлежацца — асесьці, а на гэта трэба часу ня менш двух тыднёў. Калі-ж пасеем у сьвежую ральлю, то асядаючая земля аткрывае, ды абрывае маладые карэньчыкі свежа абышоўшаго жыта і тады на засеяным полі робяцца плехі, бо сам усход пасеянаго збожа прападае.

Мешаючы, трэба вельмі пільнавацца, каб не нарабіць узрэхаў; ня штука зрабіць скора, а штука — зрабіць добра. Найлепш, прыехаўшы на поле, сперша абагнаць берагі сахой, ці плугам празначэнаго вучастку пад сяўбу, а пасьля ўжо брацца за саму ворку, бо іначэй трудна акуратна і бяз узрэхвін загараць.

Так сама трэба пільнавацца і са складамі. Прагнаўшы першую баразну, гонячы другую — адвярнуць і першую скібу, а тады ўжо гараць у загон, то цаліны, разумеецца, ня будзе; кончыўшы мешаць, ня трэба жалець фатыгі абагнаць ў вокал гоні, тады будзе шмат аздабней выглядаць усё поле.

Сеяць жыта ніколі неварта па самай мешаніне, бо як пачнеш пасьля баранаваць, то зярнё сьцягіваецца ў барозны, дык і узрост будзе вельмі няроўны: ў адным мейсцы жыта гусьцейшае, у другім — зусім рэдкае. Каб гэтаго высьцерагчыся, трэба перад самай сяўбой сперша пабаранаваць поле ў поперак, а тады яго сеяць, дый забаранаваць як сьлед.

Што да лешаньня, то на цяжкіх і роўных, каторые не маюць спаду, грунтах — разоры трэба браць глыбока, бо інакш веснавая вада лёгка іх можэ пазамываць, дый пасьля трымацца на загонах, а гэтаго жыта вельмі баіцца, бо вымакае і робяцца плехі.

Паляшыўшы, трэба пільна абглядзіць канцы разорак—абчысьціць іх і падаваць раўкі на лог.

А. Петрашкевічъ.

*Вінцэнтово.*

# Як згадаць вагу сьвіной тушы па абмерам.

Часта бывае патрэбна пры гаспадарцы, злащча пры куплі і прадажы сьвіней на мяса, знаць убойную вагу сьвіні. Згадаць гэта можна па гэткаму, досіць простаму спосабу:

Трэба узяць які небудзь касьнік, падзяліць яе на дзюймы, (калі можна, купіць такую крамную мерку) і зьмерыць перш даўжыню сьвіні па сьпіне (хрэбце) ад галавы паміж вушоў, да хваста. Далей абмерыць абхват тулавішча за пярэднімі лапаткамі, кончыўшы мерыць (абмерыўшы таўшчыню і даўжыню сьвіні) трэба перамножыць лік дзюймаў даўжыні на лік дзюймаў таўшчыні.

Лік суммы дзеляць на 13, калі сьвіня худая, а калі кормная на палавіну то на 12, і на 11 калі сьвіня добра выкармлена.

Здабытае ад дзяленьня чысло і пакажэ вагу сьвіной тушы у нямецкіх фунтах.

Каб ведаць, колькі будзе рускіх фунтаў (рускі фунт на $^1/_5$ меней нямецкаго) трэба чысло нямецкіх фунтаў раздзяліць на 4 і после памножыць на 5.

**Янка Башкір.**

*Варонецкае с.-гаспад. аучылішчэ.*

# З гаспадарскай практыкі.

Нашы гаспадары (часта так здараецца) сваім працоўнікам—коням даюць мала аўса, а больш намагаюць сечкай. Гэта ня была-б ешчэ вялікая беда, каб гэту сечку праз лад не разбаўлялі вадой. Трэба ведаць, што конь мае вельмі малы размер жывата ў каторым перэтраўляецца еда, дык памятаць, што ўвесь атпар ня можэ ў ім зьмясціцца, дый ужо пад час самой яды часьць гэнаго адпару пераходзе да кішок.

Сечку конь, ядучы, абмачывае слінай, а ў жываце—сокам, каторы там знаходзіцца, дый сечка ўжо, абмочаная, рэдкаватая папка, гатовая да страўленьня, перасовываецца да кішок.

Калі дадзім корм з лішнім прыдаткам вады, то конь вырабляе шмат менш сліны, а дабаўленая вада не пазваляе каб сліна перэняла наўскрось сечку,—за дужа разбаўляе ў жываце сок, а корм робіцца такі рэдзенькі, што за хутка пераходзе з жывата ў кішкі.

Колька, напрыклад, найчасьцей хапае каня кормленаго мокрым кормам, а пры цяжкіх прыпадках - запаленьне лёгкіх і іниш.; дый пры гэткім кармленьні навогул лягчэй паддаюцца ўселякім хваробам і тады цяжкі з німі ратунак.

**І. з М.**

*1913 г. Молодова.*

# МАЛІТВА КАНЯ.

У Амэрыцы, куды столькі што год выежджае нашых беларусаў, шукаючы сабе лепшай долі і хлеба, у вялікім месьці Нэў-Іорку начальніку паліціі прышла у галаву такая пекная думка, каб абязпечыць коні ад зьверскаго абходу з імі, ад глуму і зьдзеку. Вось ён казаў абвесьціць па месьці такую выдуману малітву каня да гаспадара:

„Табе, гаспадар, малюся—табе прыпаднашу сваю малітву. Давай мне есьці і піць заўсёды у сваю пару, паі мяне чыстаю вадою. Дай мне крышку адпачыць па доўгай і цяжкай працы. Часамі і пагавары са мною ласкава, бо голас чалавечы больш і лепш падахвоціць мяне да працы, чым твая пуга пагана. Ня бі мяне, калі часам мне цяжка прыходзіцца, але старайся памагчы мне і я ніколі ня буду наравіцца, калі чаго ні абдужаю, бо лішняго, як то кажуць, і вол не пацягне. Ня абрэзывай мне хваста, бо ён адна толькі мая абарона ад аваднёў і мух кусьлівых. Мой ты залаценькі і дарагенькі гаспадар, калі я ўжо пастарэю,—дык не прадавай мяне на мукі і сьмерць пад поцягам ліхіх людзей, а лепш забі мяне на скуру, каб я ня мучыўся і ня цярпеў на старасць у чужых руках. Ня гневайся і за тое, што ты, дзеля мяне, меў крыху клапоту. Хай Бог літасьцівы, што стварыў мяне і цябе, надарыць цябе за гэта“.

Тады у цэлым месьці зрабілася вялікое дзіво і с канямі дагэтуль абходзяцпа ўжо лепш. Вось як коні там прычэкалі лепшай долі.

Запісаў **Гальяш Леучык.**

---

## Атказ падпішчыку „Сахі“ як перайсьці с трохпалёукі на мнагапольную гаспадарку.

Вы пішыце, што хацелі-б с трохпалёўкі перайсьці на шасьціпалёўку і думаеце завесьці ў сябе гэткі парадак сяўбы:

1) Бульба, лубін на насеньне і лён.
2) Ячмень і авес.
3) Канюшына і мешанка.
4) Жыто.
5) Лубін.
6) Жыто.

Дрэнна тое, што пасля папару ідзе канюшына.

Раіў-бы такі лепш парадак завесьці:

| | | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1913 | год | папар | папар | жыто | жыто | ячмень | авес |
| 1914 | „ | жыто | жыто | бульба | авес | канюшына | лубін |
| 1915 | „ | лубін | бульба | ячмень | канюш. | жыто | жыто |

Увесь гной вывазіць пад бульбу; раннай вясной разсыпаць на чырвоную канюшыну па тры мяшкі тамасоўкі высокапрацэнтнай на адну дзесяціну і добра выбаранаваць. Канюшыны чырвонай высеваць трэба па 60 фун. на дзесяціну.

Варта рабіць пробы з гнаямі — парашкамі; прабаваць болі патасовай.

Я раіў-бы замест 6-ці палёўкі перайсьці на 4-х палёўку у гэткі спосаб:

1) Бульба, 2) Ячмень і авес, 3) Канюшына і пералёт, 4) жыта.

Ніколі не варта малых кавалкаў зямлі дзяліць па дробные вучасткі — на шмат палеткау.

Поле трэйцяе, на каторым засеваецца канюшына, а на другой палавіне пералёт—не перэстане радзіць канюшына, бо трэба ведаць што канюшына на адно і тое самае мейсцэ ня любіць варочацца раней як праз 6 гадоў.

Трэба добра абрахаваць, с скалькіх дзесяцін будзе зьбірацца рознаго збожа пры 6-ці палёўцы і пры 3-х палёўцы.

**Аграном.**

---

# Рады для гаспадароу, каторые маняцца заводзіць сады.

Усякому, хто маніцца завесьці ў сябе фруктовы сад, мы раім прытрымліваецца гэткіх 12-ці правілоў.

1. Мейсца для самога саду трэба выбіраць там, дзе земля добрая і не надта гуляюць на ней вятры.

2. Дрэвы садзіць ня густа: яблакі і ігрушы ня менщ адно ад другога на 9, а ешчэ лепш на 12 аршынаў; паміж німі можна насадзіць сліўкаў, ці віснеў; іх трэба садзіць на $4^1/_2$ арш. адно ад другога.

3. Засаджаючы сад, трэба выбіраць як найлепщые гатункі, зважаючы, якіе паміж іх добра растуць на такой самай зямлі ў суседоў,—тые і выбіраць. Самымі здаровымі і моцнымі прышчэпамі для саджэньня лічацца такіе, каторые маюць па гадоў 3—5, а на кароне павінна быць 5=9 ветак. Чым дрэва маладзейшае—тым янолягчэй прыжывае.

4. Ямы пад яблакі трэба капаць шырокіе, але ня глыбейшые, як каля аршына; пад ігрушы-трэба капаць глыбей.

5. Дрэвы садзіць рана з вясны, як толькі можна брацца за работу; не садзіць толькі глыбей, чым яны сядзелі на даўнейшым мейсцы, а найлепш вышей на невялічкім узгорчыку, бо вядомая рэч, што свежа — ускапаная земля аседае. Праз першые тры тыдні прышчэпы прывязываць да калкоў зусім лёгка, а пасьля іх ужо трэба добра прымацаваць.

6. Прышчэпы, каторые манішся садзіць, за суткі перад пасадкай—намачыць іх карэньні ў вадзе, а ўжо садзючы памачыць у рэдкую гліну, ці балота.

7. Леташні прырост пасаджэных дрэўцоў трэба крыху скараціць, зважаючы, каб не ніжэй, як да мацнейшай почкі, каторая глядзіць на старану — на двор; тады іншые почкі дадуць больш і мацнейшаго прыросту.

8. Пільнаваць парадку на кароне самога дрэўца: не даваць сучком і галінкам расьці праз лад густа і цёрціся адно а другое: лішніе трэба вырэзаць; тольki галінкі кароценькіе трэба шанаваць, бо яны родзяць фрукты.

9. Карону дрэва, ды і яго само трэба трымаць у чыстасьці: скрабаць яго тупым нажом, вострай шчоткай, абіраць мох і лішаі, а на зіму бяліць вапнай.

10. Зямлю ў вокал дрэва перэкапываць, падгнаіваць, каб яна была пульхнай. У летку—опырсківаць дрэвы „бордоскай жыдкастью і парыскай зеленью“ (прадаюцца гэтые рэчы ў сельскагаспадарскіх складах), тады фрукты ня будуць мець ані рабакоў, ані плямоў на сябе.

Тые-ж фрукты, каторые асыпаюцца—трэба усьлед іх падбіраць і кідаць у кадушку з вадой, каб усе шкоднікі, якіе там седзяць у фруктах, пагінулі.

11. Чыстые, добрые фрукты трэба зьнімаць з дрэва толькі рукамі і то як найасьцярожней, каб іх ня толькі не ўдарыць, а нават непаціскаць. Трэба тады іх разабраць на большые і запаковываць у скрынкі. Добра ешчэ заварачываць кожну штуку асобна чыстай мягкой паперкай і перэкладаць паперовымі абрэзкамі. Добрая і акаратная ўпакоўка заплаце за працу і расходы у двая.

12. Калі ж па некаторых мейсцах фрукты танны і збыць іх трудна, то зімовые гатункі, добра запакаваўшы у яшчыкі, паставіць дзе ў халодным мейсцы на зіму, а з летніх, каторые скора псуюцца, — зрабіць павідлы, ці фруктовы мёд.

**В. Пашнев.**

---

# Дробные рады для гаспадынь.

## Як сушыць грыбы.

Найперш баравікі трэба добра паабціраць і паадрэзываць блізка галовак карэньчыкі; тады самые грыбы парэзаць ня тоўста ў доўжкі і разсыпаць пад слонца на якой колечы пасьцілцы.

Як толькі абедзьве стороны іх высахнуць акуратна,—пазсыпаць у блешаные пудэлкі і паставіць іх у сухім мейсцы.

Ніякім інакшым спосабам сушоные грыбы, ня будуць такіе пахучые і смачные.

## Як рабіць самому воцат.

На 20 гарнцоў вады мягкай перэгатаванай і астыўшай — укідываецца 12 гарнцаў парэзаных яблакаў (можна ўзяць і ападкі); дабавіць да гэтаго тры фунты цукру і $1^1/_2$ гарнцы гарэлкі, і ў якую колечы зліўшы пасудзіну з невелікай зьверху дзіркай накрыць палатном, каб гэта ўся мешаніна перафэрмантавалася (збурылася).

Праз месяцоў 6 і 7 воцат будзе гатоў і яго можна зліваць у бутэлькі.

Калі-ж хто хочэ воцат мець раньнейшы, трэба ўкінуць у пасудзіну так званае гнязлдо. Робяць яго так: тоўстую (бібулу) паперу намазываюць з абыдвух бакоў мёдам, а тады, скруціўшы і зьвязаўшы гэта у трубку,—укінуць у бочку.

**Ку-ская.**

*М. Пурвенішкі Сувал. губ.*

# АД РЭДАКЦЫІ.

Ці ня ведае хто с паміж нашых чытачоў, што такая за трава „*aira* (не aиraea) *reptans*“, і як яна называецца па тутэйшаму?

Трава гэта расьце ў Валагодскай губ. і на нашым Палесі. Мае быць яна вельмі сытная для коні. Хто бы што колечы ведаў аб гэтай траве, просім нас паведаміць, а ешчэ лепш — прыслаць у папяровым мяшэчку некольні травінак з ліставамі і краскамі.

Рэдактар-Выдавец **А. Уласоу.** Друкарня „Зніч“ Вільня.